№ 88 (3931)

11 лістапада 2014 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог
Выхадзі, мой народ, грамадою...*
**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ЛІСТ ГАЛОЎНАГА РЭДАКТАРА

# Разам!

Ёсць людзі, якіх хлебам не кармі, а дай языком памянташыць. Вядома ж, падчас застолля такім асобам раздолле. І салёныя анекдоты, як шрот з паляўнічай стрэльбы, вылятаюць, і за пікантнымі тостамі ў кішэню не палезуць...

Мне, скажу шчыра, сёння не да анекдотаў, як і не да гулянак. Мозг свідруе адна думка: як у гэты надзвычай неспакойны час утрымаць "Народную Волю", як данесці вольнае слова ПРАЎДЫ да шырокай грамадскасці?

У заключную фазу ўступіла падпісная кампанія на першую палову 2015 года — што яна прынясе, якія будуць канчатковыя вынікі? І наогул, колькі нас, беларусаў, якіх па-сапраўднаму хвалюе лёс краіны, лёс яе будучыні?

Днямі патэлефанаваў чытач з Барысава і пытаецца: "Вы хочаце, каб падскочыў тыраж "Народнай Волі"?" "Канечне ж, хочам", — імгненна адрэагаваў я. "Тады меней друкуйце матэрыялаў на беларускай мове".

Ведаеце, ад такой парады ледзь не страціў прытомнасць. Як кажуць, прыехалі! Вы можаце ўявіць, каб рэдактарскі кабінет нямецкай ці французскай газеты скалануў падобны званок? Не. А ў нас, на жаль, гэта не рэдкасць. Ці не таму амаль усе рэспубліканскія, абласныя і раённыя газеты дакаціліся да таго, што на роднай беларускай мове друкуюцца толькі іх назвы і прозвішчы галоўных рэдактараў з выхаднымі звесткамі. А ў Міністэрстве інфармацыі, Адміністрацыі прэзідэнта робяць выгляд, што нічога дрэннага ў гэтым няма, маўляў, чытачам дастаткова адной, рускай, мовы. Фактычна — чужой. Мовы суседняй краіны. Той краіны, прэзідэнт якой цынічна заявіў: "Расія заканчваецца там, дзе гучыць руская мова".

З'яўляючыся журналістам, рэдактарам, выдаўцом газеты, ніколі не забываю, што я — беларус! З роднай зямлёй мяне звязваюць не толькі яе сівая гісторыя, нацыянальныя традыцыі, але і мова Купалы і Коласа, Багдановіча і Танка, Мележа і Быкава... Калі дачка ішла ў першы клас, пытанняў не ўзнікла наконт таго, у якой гімназіі ёй вучыцца. Толькі ў беларускамоўнай!

Пазбаўце дрэва каранёў — яно тут жа, на вачах, засохне, загіне. Вось так засыхаюць, гібеюць і людзі, выракаючыся роднага слова. Ім толькі здаецца, што іх жыццё паўнавартаснае, насамрэч — яно абкрадзенае, абяднелае. Мне вельмі шкада таго чытача з Барысава, якому цяжка чытаць артыкулы ў "Народнай Волі" на беларускай мове. Я пацікавіўся: "Можа, вы прыезджы?" — "Які прыезджы?! Жыву тут з дня нараджэння!" Бязмоўны беларус! Колькі такіх! Тысячы, дзясяткі, сотні тысяч... Нацыянальная трагедыя!

Не аднойчы чуў па тэлефоне: "Падпісаўся б на "Народную Волю", але ж вы адмаўляецеся перавесці яе на адну мову — рускую". Так, адмаўляемся. І маем рацыю. Мы не хочам далучацца (і ніколі не далучымся!) да тых, хто запісаўся ў магільшчыкі роднага беларускага слова. Мова — душа народа. А без душы не можа быць вартага чалавека.

З настойлівай просьбай звяртаюся да сталых падпісчыкаў "Народнай Волі", а таксама да тых, хто рэгулярна купляе газету ў шапіках: давайце разам уздзейнічаць на манкуртаў, схіляць іх да ўсяго роднага, беларускага. Дапамажыце, калі ласка, нам пашырыць чытацкую аўдыторыю "Народнай Волі". 2015 год — лёсавызначальны для Беларусі. І важна, каб на ўчасткі для галасавання пайшлі не людзі-зомбі, зацыкленыя на хлуслівай прапагандзе заангажаваных сродкаў масавай інфармацыі (і айчынных, і чужых), а тыя, хто здольны адсеяць здаровыя зярняты ад шалупіння, адрозніць праўдзівае слова ад ідэалагічнай брахні.

"Народная Воля" — за ПРАЎДУ!

"Народная Воля" — за БЕЛАРУСЬ!

Мы вельмі і вельмі ўдзячны вам, даўнішнія прыхільнікі "Народнай Волі". Спадзяёмся не толькі на наша шматгадовае сяброўства, але, паўтараю, і на тое, што з вашай актыўнай дапамогай чытацкая аўдыторыя і надалей будзе пашырацца. У некага з вашых родных альбо сяброў, саслужыўцаў чакаецца юбілей — павіншуйце не толькі сувенірным падарункам, але і падпіскай на "Народную Волю". Вы моцна стаіце на нагах і ёсць магчымасць зрабіць прыемнае тым, у каго цяжкасці з фінансамі — не ўпусціце такі шанец. Тым больш што кошт, напрыклад, месячнай падпіскі — усяго 40 тысяч беларускіх рублёў. Пагадзіцеся, сёння гэта — дзве-тры порцыі кавы.

У вашых руках чарговы нумар "Народнай Волі". Ёсць што пачытаць! Хацелася б толькі, каб газета прайшла не праз адны вашы рукі. Прачыталі самі, прачыталі ўсе сямейнікі — перадайце, калі ласка, суседзям, знаёмым, якія пакуль не лічацца нашымі падпісчыкамі. Глядзіш, неўзабаве і ў іх з'явіцца жаданне стаць пастаяннымі чытачамі "Народнай Волі". Калі кожны з вас, шаноўныя сябры, сагітуе падпісацца на газету хаця б аднаго чалавека — можаце ўявіць, на колькі нас стане больш!

Учора пацікавіўся ў аднаго апазіцыянера: "З'яўляешся падпісчыкам "Народнай Волі"?" — "А я ў інтэрнэце чытаю". Даражэнькі, каго ты падманваеш? У інтэрнэт, на свой сайт www.nv-online.info, мы выстаўляем матэрыялы нумара толькі праз 7-10 дзён пасля яго выхаду, аператыўна вывешваем усяго два кароценькія анонсы. Адным словам, газета трапляе ў інтэрнэт з вялікім спазненнем, можна сказаць, толькі як варыянт для архіўнага захоўвання. А які ж ты палітык, калі не знаёмішся з аператыўнай прэсай? Колькі на старонках "Народнай Волі" публікуецца глыбокіх аналітычных матэрыялаў, неабходных тым, хто займаецца агітацыйна-асветніцкай работай сярод людзей! Вось чаму на сяброўства з нашай газетай трэба звярнуць сур'ёзную ўвагу лідарам палітычных партый, грамадскіх аб'яднанняў, рухаў.

Амаль дваццаць гадоў мінула з таго часу, як выйшаў першы нумар "Народнай Волі". Колькі выпрабаванняў было на яе шляху! Вытрымалі. У тым ліку і дзякуючы вам, шаноўныя чытачы. Мы заўсёды адчувалі вашу падтрымку. Спадзяёмся, што і далей будзем ісці разам.

Заўважу, пазіцыя "Народнай Волі" застаецца нязменнай.

Мы — за суверэнную дэмакратычную Беларусь.

За адраджэнне нацыянальнай культуры, гісторыі, мовы.

За свабоду слова, за ПРАЎДУ.

За цывілізаваны эканамічны рынак.

Адным словам, "Народная Воля" — за Беларусь, за яе заўтрашні светлы дзень! Упэўнены, і ў вашай пазіцыі, шаноўныя сябры, такі ж падмурак. Тады будзем **РАЗАМ** і ў 2015 годзе.

*Вы — з "Народнай Воляй",
"Народная Воля" — з Вамі!*

**Іосіф СЯРЭДЗІЧ,
заснавальнік, выдавец
і галоўны рэдактар газеты
"Народная Воля".**

ДАТА

## Для музея 75 — это молодость опять

*Национальный художественный музей отмечает свой юбилей*



(Продолжение на 2-й стр.)

СКАНДАЛ

## У Вільнюсе будуць судзіць беларускага шпіёна?

*Учора літоўскія СМІ паведамілі, што ў суд перададзена рэзанансная крымінальная справа, паводле якой грамадзянін Літвы абвінавачваецца ў шпіянажы на карысць замежнай дзяржавы.*

Інфармацыя пра гэтую справу супярэчлівая. Адны літоўскія крыніцы паведамляюць, што літовец *"Р.Л. збіраў сакрэтную інфармацыю на карысць Беларусі"*, што стала вядома ў выніку доўгатэрміновай разведвальнай аперацыі, якую правёў Дэпартамент дзяржаўнай бяспекі Літвы.

Іншыя крыніцы не паведамляюць краіну, на якую працаваў затрыманы літовец. Дапускаецца нават, што гэта можа быць Расія, якая дзейнічала праз "беларускіх калег".

Крымінальная справа ў панядзелак была перададзена Вільнюскаму акруговаму суду.

ПЕРЕЖИТОЕ

*Владимир ГОРБАЧЕВ*

# Сквозь тернии

***То, что сделал Владимир Васильевич Горбачев, профессор, доктор медицинских наук, бывший проректор Института усовершенствования врачей, вызывает величайшую благодарность. Его 15-летний труд над 1200-страничными мемуарами достоин памятника при жизни.***

***Пройдя суровые испытания, выпавшие на довоенные, военные и послевоенные годы, этот необыкновенной щедрости души человек сохранил не только ясную память, но и оптимизм, веру в завтрашний день, желание идти в ногу со временем.***

***Публикуя воспоминания Владимира Васильевича Горбачева, "Народная Воля" воскрешает яркие страницы жизни не только его благородной семьи, но и жизни всего белорусского народа. А о том, что пришлось пережить лично автору мемуаров, в юном возрасте ставшему партизаном, затем по злой воле судьбы оказавшемуся в немецком плену, вы, дорогие читатели, сами узнаете, когда прочитаете главы, вышедшие из-под пера этого уважаемого человека, одного из достойнейших граждан Беларуси.***

***Жаль, что газетная площадь не позволяет напечатать мемуары В.В.Горбачева в полном объеме, а потому представляем читателям их в сокращенном варианте.***



(См. 7-ю стр.)

ВІНШУЕМ!

# Сёння ў нашай хаце «Свята»!



*Свята — у прамым і пераносным сэнсе гэтага слова.*

*Беларускі дзяржаўны ансамбль народнай музыкі "Свята", чыя слава разляцелася далёка за межы Беларусі (калектыў выступаў у Канадзе і Аўстрыі, Германіі і Італіі, Польшчы і Індыі, Карэі і Кітаі, Эфіопіі і Вялікабрытаніі, Францыі і Венесуэле...), сёння дае ў сталічнай філармоніі канцэрт з нагоды свайго 30-годдзя. Гледачы пачуюць беларускія народныя і аўтарскія песні, любімыя хіты ў арыгінальнай апрацоўцы, убачаць у незвычайных пастаноўках танцы з элементамі нацыянальных традыцый. На галоўнай сцэне краіны сваімі цудоўнымі галасамі, чараўнічымі музычнымі здольнасцямі будуць увесь вечар радаваць заслужаныя артысты Рэспублікі Беларусь **Анатоль Кашталапаў**, **Марыя Маршак**, артысты **Вячаслаў Статкевіч**, **Таццяна Сушчэня**, **Андрэй Маханёк**, **Васіль Сатваронны** і многія іншыя.*

## Пасол Эквадора пачынае працу ў Беларусі

***Карлас Ларэа Давіла** ўжо ўручыў копіі даверчых грамат кіраўніку беларускага МЗС **Уладзіміру Макею**.*

Нагадаем, што год таму Беларусь наведаў прэзідэнт Эквадора Рафаэль Карэа. Тады і было вырашана актывізаваць супрацоўніцтва. Аднак тавараабарот паміж нашымі краінамі такі, што наўрад ці пакрые выдаткі на ўтрыманне пасольства. Больш за тое, эксперты сцвярджаюць, што другога Уга Чавеса з Рафаэля Карэа не атрымаецца, таму на Эквадор асабліва не трэба разлічваць.

ПО ПОВОДУ



*Мария ЭЙСМОНТ*

# Лицемерная кампания

Александр Лукашенко потребовал искоренить в стране тунеядство. По его данным, сегодня в Беларуси около 400 тысяч иждивенцев.

*"Речь идет о других — о бездельниках, которые не работают ни в Беларуси, ни в России, ни в других странах*", — заявил недавно Лукашенко. *"А доживут до 60 лет, потребуют: давайте пенсии. А откуда пенсии? От нас с вами. Поэтому я и требую решительных мер в борьбе с теми, кто нигде не работает*", — сказал президент.

И тут же полетели предложения из министерств и ведомств, как заставить бездельников работать. "Губернатор" Витебской области Александр Косинец объявил, что на Витебщине уже начали составлять списки тунеядцев. Руководитель Брестской области Константин Сумар отчитался, что в регионе 40 тысяч лентяев, которых постараются "*поголовно привлечь к труду"*. Развернулась, одним словом, мощная кампания. Но...

Безусловно, нельзя отрицать, что есть в нашей стране люди, которые живут за счет других. Немало примеров, когда вроде бы благополучный сын начинает пить, становится алкоголиком, от него отказываются жена, дети, он возвращается в родительский дом и садится на шею престарелых родителей. Есть те, кто просто не хочет работать: им легче перебиваться попрошайничеством или случайными заработками, выживать на нищенское пособие по безработице.

Но таких тунеядцев в Беларуси все же не так и много. Эксперты озвучили статистику — 3—5% населения страны, как и в любом государстве мира, — это пьяницы, наркоманы и прочие асоциальные элементы, которые не хотят работать да и вряд ли будут, какие им условия ни создавай, потому что имеют отклонения в психике, в поведении.

Нация спивается — это факт. Но государство как раз-таки пьянчужек на произвол судьбы не бросает. Они трудоустроены, потому что многого не требуют, ими легко манипулировать. А вот с теми, кто работает хорошо, но требует достойной и адекватной зарплаты или имеет гражданскую позицию, не церемонятся. От них руководители спешат избавиться, уволить с работы, исключить из университета. Причем сегодня неугодного работника можно выбросить на улицу без объяснения причины, не продлив с ним трудовой контракт. Этим правом нанимателей наделил Александр Лукашенко, подписав в свое время декрет о системе срочных трудовых контрактов. И в современной Беларуси стала обычной практика, когда человека не за плохую работу, не за пьянство и прогулы, а фактически за политическую деятельность, активную позицию увольняют с работы, а новую найти не дают возможности.

Кто эти люди? Тунеядцы?!

Учительница истории из Пуховичского района Наталья Ильинич, которая каждый год накануне нового учебного года обивает пороги районного отдела образования и просит вернуть ее в школу, но получает отказ и живет с огорода и своего хозяйства? Водители грузовиков микашевичского завода "Гранит", которых в прошлом году уволили с предприятия после акций протеста? Пятеро из уволенных нашли возможность трудоустроиться, а трое рабочих до сих пор перебиваются заработками за границей. Сегодня на очереди на увольнение еще два неформальных лидера "Гранита", два активных члена независимого профсоюза — они уже получили уведомления, что с ними не будет продлен трудовой контракт. Все знают, что эти водители — отличные непьющие работники, у одного из них жена в декретном отпуске, но руководство решило от них избавиться. Куда их запишут в свете последних революционных идей — в тунеядцы?!

По иронии судьбы именно в те дни, когда Александр Лукашенко объявил войну тунеядству, в Бобруйске в знак протеста против увольнения с местного завода тракторных деталей и агрегатов решили голодать рабочие. Сценарий увольнения тот же: администрация не продлила с ними трудовые контракты. Все уволенные — высококвалифицированные специалисты, но члены независимого профсоюза. Если бы Бобруйск был административной единицей Витебской области, всех уволенных уже, наверное, внесли бы в список тунеядцев.

А есть еще лидеры оппозиционных партий, правозащитники и т.д. и т.п.

...Примеров принудительного труда история знает немало. Самый известный, конечно, из нашего общего прошлого —- СССР, где в Уголовном кодексе была статья "за тунеядство". Есть пример Германии времен Гитлера, который ввел 6-месячную трудовую повинность для всех молодых мужчин страны. В 1938 году в Эстонии был принят специальный закон о привлечении в трудовые лагеря трудоспособных граждан, уклоняющихся от работы. Но и в нацистской Германии, и особенно в СССР борьба с тунеядством имела не только экономическую основу (стране нужна была дешевая рабочая сила), но и идеологический подтекст, служила прекрасным инструментом расправы с инакомыслием. Самый известный в советской истории тунеядец — поэт Иосиф Бродский. И таких "тунеядцев", которым не давали работать, а потом наказывали "общественно полезным трудом", в СССР было немало. Писатели Андрей Синявский и Юрий Даниэль, философ Александр Зиновьев, преподаватель Иосиф Бегун...

Согласитесь, избежать параллелей с советским прошлым весьма сложно. Поэтому если сегодня в стране объявлена кампания по борьбе с тунеядцами и государственная пресса готовит общественное мнение, что к принудительному труду будут привлекаться только исключительно бездельники, свое слово должны сказать официальные профсоюзы. Почему бы новому руководителю ФПБ Михаилу Орде не поднять вопрос об отмене положений контрактной системы, позволяющих нанимателям плодить тунеядцев из числа людей, которые нормально работают, но имеют точку зрения, отличную от общепринятой, которые активно борются за свои права. А пока борьба с тунеядцами-бездельниками во многом выглядит нелогичной и лицемерной кампанейщиной.

ДЕЛА ЖИТЕЙСКИЕ

# Так сколько мы должны платить за коммуналку?

На психику людей власть обрушила новую весть. Сразу несколько коммунальных чиновников и вице-премьер заявили про необходимость увеличения платы за коммунальные услуги, мотивируя это тем, что дешевизна не стимулирует население экономить. Причем каждый чиновник называет разную величину нынешних платежей — от 18% до 32% от себестоимости этих услуг, убеждая, что это немного — ведь оплата жировок "съедает" всего 10% зарплаты белорусов.

Странная ситуация. Кто считал эти проценты? Кто их проверил? Мрак и тайна! Главный чиновник страны, по его признанию, тоже никак не может понять, как происходит формирование тарифов и коммунальных платежей для населения. По его же данным, доля затрат, возмещаемых населением коммунальникам, еще выше — 50%. Получается, что даже ему неведомы финансовые заморочки коммунального "двора"...

Казалось бы, есть коммунальный объект, а в нем системы: тепло- и водоснабжение, канализация, электроснабжение, лифты и другое хозяйство. Все учтено, сделаны расчеты персонала, ремонтных материалов, технических и других необходимых средств. По ним определены необходимые для их нормального функционирования объемы финансирования.

Дальше — проще. Столько насчитали, а столько собрали с пользователей коммунальных услуг. И эти расчеты — на стол. Для проверки общественностью в каждом населенном пункте. Даже если среди проверяющих не будет отъявленных "отморозков", наверняка будут те, кому небезразлично, сколько денег он должен платить из своего кармана за коммунальные услуги.

В экономике все взаимосвязано. После введения норм расхода воды ее общее потребление по всей стране уменьшилось. Потребление электроэнергии для работы насосов, подающих воду для населения, тоже уменьшилось. Это же подтверждал в своем интервью и представитель Минского водоканала. Соответственно, снизилось и общее производство электроэнергии (товара) в стране.

Сработали экономические факторы, и себестоимость электроэнергии при снижении объемов ее производства стала расти, а прибыль от реализации электроэнергии (товара) стала снижаться. И опять начались заклинания: "Надо увеличить тарифы". Теперь уже не только на электроэнергию, но и на тепловую энергию, которую производят ТЭЦ для отопления и горячего водоснабжения. Год назад за одну гигакалорию тепловой энергии надо было заплатить 70 тысяч рублей, теперь — 90 тысяч рублей.

В такой ситуации коммунальникам даже невыгодно экономить. Регулировка режимов тепловых сетей и в системах домов — экономия тепла. Установка конденсаторов для компенсации на лифтах и в жилых домах (холодильник, телевизор, пылесос, фен, кондиционер) реактивной мощности — экономия электричества. Но экономия, как мы понимаем, снижает потребление, а значит, снижается и производство электроэнергии и тепла, что ведет к росту затрат на их производство, и снова — к росту тарифов.

Замкнутый круг. Экономия приводит к росту тарифов. При повышении тарифов люди снова стараются экономить, снижается потребление, падает производство, себестоимость растет, значит, тарифы снова надо повышать. А к снижению тарифов ведет увеличение потребления. Это важно понять.



Сейчас у нашей энергосистемы 2000 мВт лишней мощности. То есть мы полностью оплачиваем обслуживание огромных лишних мощностей, это заложено в тарифы. От того, что мы станем экономить и потреблять еще меньше, общая сумма на обслуживание энергосистемы не снизится. Значит, нам повысят тарифы, а объем лишних мощностей еще возрастет.

Теперь представьте, что произойдет с тарифами и нашей промышленностью после пуска АЭС. Уже сегодня на ее возведение потрачено около 600 миллионов долларов, тарифы для отдельных бытовых потребителей почти сравнялись с тарифами промышленными, которые уже стали превышать европейские, ходя стоимость газа в Европе значительно выше нашего.

Наши правители, располагая в 2005 году валовым внутренним продуктом в 50 миллиардов долларов, обещали его ежегодный прирост на 8%. Из этого расчета было произведено увеличение зарплат. Но вместо ожидавшегося в 2014 году ВВП в 100 миллиардов реально будет только 70 миллиардов долларов. Это значит, что уже выданные населению деньги явно не соответствуют стоимости произведенного товара. Так что началась процедура их добровольно-принудительного изъятия.

Растут цены на продовольствие. Да так, что уже многие семьи расходуют на него более 50% своих доходов, что соответствует уровню бедности. Но, по мнению властей, реальных денег у отдельных групп населения еще достаточно. Чтобы изъять их и снизить уровень инфляции, они запускают новые "жвачки" — рост платежей за коммунальные услуги, плату за посещение врачей, теперь вот еще и налоги на иждивенцев и штрафы за "тунеядство". Наши чиновники по способам изъятия денег у населения давно уже не уступают Остапу Бендеру.

Но все когда-то кончается. Очевидно, что реальных денег у государства и у населения становится все меньше. Попытки властей продать предприятия успеха не приносят. Затеянная реконструкция ряда отраслей провалилась. Восточная соседка, годами дававшая деньги режиму, сама оказалась в сложном и довольно рискованном положении.

Сегодняшняя реальность такова, что, даже собрав коммунальные крохи с населения, положение в экономике не поправить. Нужны реформы, другие люди и новая власть. И чем быстрее, тем будет лучше для страны и ее населения.

Такая вот мантра. Не коммунальная.

**Марат АФАНАСЬЕВ.**

*г.Жлобин.*

## ОБ АВТОРЕ

**Марат Афанасьев** по образованию инженер-электротехник, работал главным энергетиком на алюминиевых заводах в Карелии и Египте, заместителем главного энергетика и начальником планово-экономического отдела БМЗ. Лауреат Всесоюзного научно-технического конкурса молодежи (НТТМ-74). За время трудовой деятельности внедрил полторы сотни рационализаторских предложений. Председатель Жлобинского городского Совета депутатов (1990—1991 гг.). Депутат Верховного Совета 13-го созыва (фракция "Гражданское действие"). Депутат Жлобинского районного Совета депутатов (2003—2007 гг.). Один из основателей Объединенной гражданской партии.

ПО ВАШЕЙ ПРОСЬБЕ

# *Если что-то случилось...*

***Не секрет, что сейчас попасть на прием к врачу — не такая простая задача. Однако слышала, что в Минске люди сами могут обращаться за экстренной помощью в больницы. Не могли бы вы разъяснить, в каких случаях это можно делать и куда обращаться?***

**Марина РАДЮК, г.Минск.**

Если вы почувствовали себя плохо в ночное время, в выходные или праздничные дни, то имейте в виду, что в Минске экстренная круглосуточная помощь в нерабочее время поликлиник оказывается в следующих учреждениях здравоохранения:

— *хирургическая:* 2-я городская клиническая больница, ул.Энгельса, 25;

— *оториноларингологическая (ЛОР):* 9-я городская клиническая больница, ул.Семашко, 8;

— *офтальмологическая:* 10-я городская клиническая больница, ул.Уборевича, 73;

— *кардиологическая:* Больница скорой медицинской помощи, ул.Кижеватова, 58;

— *травматологическая:* 6-я городская клиническая больница, ул.Уральская, 5;

— *ожоги:* Больница скорой медицинской помощи, ул.Кижеватова, 58;

— *гинекологическая:* 5-я городская клиническая больница, ул.Филатова, 9;

— *урологическая:* 4-я городская клиническая больница, ул.Р.Люксембург, 110;

— *стоматологическая:* 3-я стоматологическая поликлиника, ул.Киселева, 5.

ПОДУМАЛОСЬ

# *Как уважать себя заставить*

Есть в Африке такое государство — Буркина-Фасо, жители ее дали своей стране название, которое означает в переводе на русский "Страна уважаемых людей". И доказали, что они — уважаемые люди! Когда их правитель Компаоре, который правил с 1987 года, решил изменить Конституцию для продления полномочий, они сказали: "Нет". В столице проходили многотысячные манифестации, протестующих демонстрантов травили газом, но они сорвали голосование, и правительство вынуждено было отменить попытку изменения Конституции. Вот так африканская страна показала пример, как заставить себя уважать.

**Тимофей МАКАРЕНКО.**

*Витебск.*

# *Паказчык смяротнасці зашкаліў*

З учарашняга дня на Гомельшчыне пачалося дадатковае медыцынскае абследаванне жыхароў васьмі малых гарадоў і гарадскіх пасёлкаў.

І гэта невыпадкова: у гэтых невялічкіх мястэчках і пасёлках адзначаны рост смяротнасці людзей на 10—20%.

У склад выязных медыцынскіх брыгад уваходзяць да пяці дактароў розных профіляў, у тым ліку эндакрынолагі, спецыялісты медыцынскай і ультрагукавой дыягностыкі, анколагі і кардыёлагі. Справа ў тым, што калі прааналізавалі структуру смяротнасці ў гэтых населеных пунктах, то высветлілі, што першае месца займаюць хваробы сардэчна-сасудзістай сістэмы, другое месца — анкалогія.

**Зінаіда КРАЎЦОВА.**

КАЛОНКА АЛЕСЯ НЯЎВЕСЯ

# *Ці прынеслі дзеткі на магілу кветкі?*

**У Гомелі дзве сям'і судзяцца за месца на могілках. А нядаўна там брат і сястра аспрэчвалі права адзін аднаго быць пахаваным каля маці.**

*Свой век адгаравала Ганна,*
*Спазнаўшы шмат турбот-пакут:*
*Муж у магілу ўлёгся рана —*
*Адна ўпрагалася ў хамут.*
*Цяпер Ганулька ў іншым свеце,*
*Дзе спачываюць сваякі.*
*Дарослыя, на шчасце, дзеці*
*У Ганны — сын і дзве дачкі.*
*Яны, як справілі хаўтуры,*
*Дык адляцелі хто куды.*
*Магілу разграбалі куры —*
*Забылі дзеці пра клады.*
*Як патрабуюць нашы звычкі*
*І "хрысціянскі пратакол",*
*Праз год*
*Таксама невялічкі*
*Зрабіць па маці трэба "стол".*
*І дзеці (шчасцейка якое!)*
*Зноў аб'явіліся ў сяле.*
*Як частакол, стаяць напоі,*
*Гарою — закусь на стале.*
*Калі ж ударна "памянулі",*
*Гарэлкай залілі глузды,*
*У рэшце рэшт і да матулі*
*Паджгалі дзеці, на клады.*
*Цяпер ужо не галасілі,*
*Стаялі сцішана жанкі,*
*А сын, увесь, як кажуць, сіні,*
*Не рваў сарочку на шматкі.*
*Далей малюнак быў панылы,*
*Усё пайшло зусім не так...*
*Каля матулінай магілы*
*Свабодны месціўся "пятак".*
*Дачка старэйшая сказала*
*Сястры і брату-дзецюку:*
*— Для нас усіх тут месца мала.*
*Ляжаць на гэтым "пятаку"*
*Я, безумоўна, маю права,*
*Як прыйдзе і мая пара...*
*— Ты паглядзі, якая пава! —*
*Другая ўсклікнула сястра. —*
*Хіба ж ты маеш перавагу,*
*Каб месца згрэбці спадцішка?*
*Калі памру, сама тут лягу,*
*Бо я — любімая дачка!*
*А брат сястрыцам запярэчыў:*
*— Павінны побач легчы сын.*
*Ды гэта і таму дарэчы,*
*Што двое вас, а я адзін.*
*Што пасля гэтага ўсчалося!*
*Быў сведкам векавечны дуб.*
*Хіба не рвалася валоссе,*
*Ды не трашчаў у брата чуб.*
*Пайшлі праклёны і папрокі,*
*Выказвалі знявагу-злосць*
*(Варочаліся ў трунах продкі),*
*Згадалі, што было і ёсць:*
*— Яшчэ падчас вучобы ў школе,*
*Зусім адбіўшыся ад рук,*
*Дзіця прынесла ты ў падоле!*
*Ці ж маму ўзрадаваў байструк?*
*— Табе не сорамна як сыну?*
*Згадай: залетась з пахмяла*
*Зламаў ёй не адну рабрыну,*
*Як мама выпіць не дала!*
*Ну, словам, аж да самай ночы*
*Не закрываліся раты:*
*— Ты мацеры плявала ў вочы!*
*— А ты кляла яе!*
*— А ты...*
*І ў выніку рахунак гэткі:*
*Што ні вазьмі,*
*Як ні круці,*
*Прыносілі матулі дзеткі*
*Адныя крыўды пры жыцці.*
*Старая ўсё ўспрымала з болем,*
*Памерла — і з плячэй гара...*
*А лепш бы згадвалі, хто болей*
*Для маці сатварыў дабра.*

* * *

*На той магіле крыж пахілы,*
*Травы — хоць пачынай пракос.*
*Прыджгалі дзеці да магілы.*
*Ніхто з іх кветку не прынёс...*

ПРОДОЛЖЕНИЕ ТЕМЫ

# Дрова ломают не профессора...

Во времена зарождения мыслей о перестройке первый и последний президент СССР Михаил Сергеевич Горбачев обратился к обществу с призывом поменять старый образ мышления на новый. Призыв, по-моему, справедливый.

К сожалению, как показала жизнь, большая часть наших граждан этот призыв либо не услышала, либо проигнорировала. А жаль! Более 80 лет (с 1917 г.) коммунистическая пропаганда сильно зомбировала умы, пропитывала сознание граждан заскорузлой совковостью, которая зацементировала мозги людей и не позволяла мыслить широко, свободно, независимо, с достаточной степенью скептицизма и недоверия к официальной пропаганде.

Пропаганда имеет в основном характер фальсификаций, преследующих цель выдать желаемое за действительность, исказить факты, создать превратное представление.

Так, например, мировая общественность была обманута советской пропагандой в отношении СССР. Ей, пропаганде, удалось внушить мировому сообществу, что советская страна (обратите внимание: само название женское, внушает нежность и доверие) — это государство для рабочих и крестьян, и нет у него других забот, кроме как обеспечить народам СССР, тем же рабочим и крестьянам, привольную и богатую жизнь, как в кинофильме "Кубанские казаки".

И в это мир поверил! Ну какие Ленин, Сталин, Берия, Дзержинский, Зиновьев — рабочие и крестьяне?! Слепая вера, детская наивность, доверчивость, страх перед террором, позволили диктаторскому режиму Сталина просуществовать бесконечно долго.

Фальсификация всего и вся, всей нашей жизни, начиная с песен и кончая выборами (без выбора), литературой социалистического реализма позволили античеловеческому режиму зверствовать не только в пределах СССР (в советской стране), но и за рубежом. Это и есть совковость в чистом виде: говорим одно, делаем другое.

Совковость порождает чувство ложного патриотизма, которое позволяет своему носителю придерживаться линии "Все одобрям-с". "Кто живет без печали и гнева, тот не любит Отчизны своей", — сказал Некрасов.

Критика является двигателем общественного прогресса. Без критики общество не развивается, превращается в застойное болото. Кто этого не знает? У нас, как и в СССР, критика была преследуема. Можешь ругать чужого президента сколько душе угодно.

Так нужен нам новый образ мышления? Этот вопрос сразу возникает после ознакомления с заметкой "обычного пенсионера" Л.И.Шофмана в "Народной Воле" от 29 августа этого года "Не наломать бы больше дров, профессор...". "Обычный пенсионер" не хочет говорить, что большевики, их вожди, ЧК-ГПУ-НКВД залили страну кровью от края до края, покрыли бесчисленными концлагерями (более тысячи! Это были Освенцимы без печей), устраивали голодоморы. Нет ни одной фотографии советского концлагеря: свидетельств творимых властью злодеяний не должно быть. Страх, нищета, аресты, пытки, расстрелы, высылки в Сибирь, смерть от голода и холода навечно поселились в нашей стране при "власти рабочих и крестьян". Об этом народы никогда не забывают. Они, народы, помнят о зверствах НКВД и их руководителей — Ленина, Сталина. И сегодня, подумать только, Россия вопреки международному праву напала на Украину, послав регулярные войска в виде "зеленых человечков" для захвата Крыма и любых других областей, которые окажутся более беззащитными. Сегодня "зеленых человечков", владеющих тяжелым вооружением, поступившим через захваченную Россией границу с Украиной, цинично называют "ополченцами". Регулярные войска России с ракетными комплексами, наемники, террористы, сепаратисты (граждане Украины неукраинской национальности, ненавидящие Украину и ее украинский язык, приехав из России, желают отколоть часть украинских земель — Донецкую и Луганскую области в пользу своей исторической родины России) навязывают миролюбивой Украине войну, угрожая полной оккупацией.

Что, этого не знает "обычный пенсионер" Шофман?! Не знает он и того, что ничего бесплатного не бывает, что за образование, за медобслуживание и многое другое государство высчитывает из наших зарплат (см. "Народную Волю" за 5 сентября 2014 г.)?

Дрова, как я думаю, ломают не профессора, а вожди. Очередную ломку дров затеял ядерный агрессор XXI века, которого называют аббревиатурой ВВП. Чтобы прекратить войну болезненных для России санкций, необходимо вернуться к статус-кво, существовавшему до агрессии России в Крыму. Крым необходимо вернуть Украине, извиниться перед украинским народом, выплатить законную компенсацию за нанесенный вред, вывести все войска России с территории единой Украины.

И последнее. Отвечая на заметку Л.И.Шофмана, скажу: СССР развалился сам, так как держался на штыках, как Югославия. Советский Союз был образован в 1922 году с помощью насилия. Как это происходило, хорошо показано в фильме "Белое солнце пустыни".

А о результатах референдума 17 марта 1991 года убедительно сообщил М.В.Сенько (см. "Народную Волю" от 12 сентября 2014 г.). Некоторые республики СССР отказались от проведения референдума, так как их народы давно решили для себя: жить в составе СССР под властью Москвы, куда их загнали силой, тяжело и бедно, как в тюрьме, невозможно.

Не референдум надо было проводить, а самораспускаться, что и произошло. И слава Богу!

**Борис Иванович ЗАБОЛОТНИК.**

*Минск.*

З НАТУРЫ

# *Альтанка*

Калі выносілі з пад'езда труну са Сталінградцам (так яго звалі тыя, хто ведаў), нехта прапанаваў:

— Трэба з Іванавічам каля яго любімай альтанкі затрымацца. Вельмі ж любіў Сталінградзец адпачываць кожны вечар у ёй.

Мужчыны, што чакалі ў двары каля невялічкага аўтобуса, прысланага з рытуальнай канторы, пераглянуліся:

— Але ж няма яе, альтанкі. Ужо месяцы два, як разбурылі.

— Нічога. Можна пастаяць на тым месцы, дзе Іван Іванавіч аддыхваўся пасля сваіх трэніровак, як ён казаў, — уставіла сваё слова настаўніца Леакадзія Міронаўна. Яна працавала ў бліжняй адсюль гімназіі (некаторыя вучні нават адлынькалі і часцяком хаваліся ад урокаў у той альтанцы). Шчыра кажучы, яна не вельмі паблажліва адносілася да свайго суседа. Помніла, колькі сіл патраціла — усё ўпрошвала, каб Іван Іванавіч перад Днём Перамогі выступіў перад яе чацвёртакласнікамі.

— А што я ім раскажу? — пагладжваючы сівыя валасы, задумліва запытаўся Іван Іванавіч.

— Пра Сталінград. Вы ж, помню, расказвалі, што некалі і дом Паўлава абаранялі, і данясенне камандарму Чуйкову дастаўлялі.

— Было такое, даражэнькая. Не дай Бог перажыць ні нам, ні нашым унукам і праўнукам падобнае.

Калі стары ўсё ж прыйшоў у клас, Леакадзія Міронаўна ў душы расчаравалася. Апрануў Сталінградзец звычайны пінжак, на якім на лацкане быў прывінчаны толькі Знак ветэрана. А жанчына ж ведала: у таго ў стале ў скрыначцы ляжаў не адзін медаль і некалькі ордэнаў. Ды не тое здзівіла настаўніцу. Стары занудліва пачаў дзецям распавядаць, як ён у акружэнні пад Харкавам разам з сябрамі дзяліў крошкі ад... чатырох сухароў, што засталіся ў сумках ад процівагазаў...

Калі потым вярталіся са школы, Сталінградзец па-змоўніцку падміргнуў Леакадзіі Міронаўне:

— Не перажывай, даражэнькая. Лепей няхай малыя запомняць, як трэба даражыць хлебам, чым слухаць пра баі за кожны паверх.

У апошні час Сталінградзец выбіраўся са сваёй кватэры ці пад вечар, калі трохі спадала спякота, ці раніцай. Пад рукамі ў яго былі дзве спецыяльна зробленыя з алюмініевых гнутых трубак мыліцы (пастараўся зяць-умелец). Не слухаліся ногі. Ён прызнаўся неяк суседзям: на міне падарвалася машына, у якой ехаў. Спачатку адняло адну нагу, потым пачала патроху дранцвець другая. Сталінградзец браў пад рукі мыліцы і, пераадольваючы кожны паўкрок, кіраваў да альтанкі.

Там у яго быў улюбёны куток і амаль заўсёды цень і не так балела спіна, калі адкідваўся да сцяны...

Мінаў час, і, калі Іван Іванавіч ад'язджаў да дачкі з зяцем (жонка даўно памерла), у альтанку зачасцілі выпівохі. Яны нярэдка заседжваліся да позняга вечара. Смалілі папяросы, гарланілі, пакідалі пасля сябе пустыя бутэлькі, шматкі паперы ды розны бруд. Раззлаваная прыбіральшчыца, мусіць, з дапамогай суседзяў дамаглася, каб з домакіраўніцтва аднойчы прыйшлі рабочыя і спілавалі слупкі ў альтанцы.

Пасля таго адарваны шыфер і паламаныя дошкі з падлогі яшчэ колькі дзён валяліся на месцы, дзе была альтанка. Затым аднойчы прыехаў трактар, работнікі пагрузілі падгнілыя маснічыны. Цяпер месца, дзе некалі красавалася альтанка, амаль нічым не адрознівалася ад наваколля ў двары. Пліткі, на якіх была паслана падлога, сталі амаль такімі ж, як і сцяжынкі, выкладзеныя падобнымі цераз двор.

...Труну з нябожчыкам ціхенька апусцілі на чыста падмеценыя пліткі.

— Як жа Іванавіч перажываў, што не прыжыліся клёнікі, якія вясной тут высаджвалі ў суботнік, — сказала Леакадзія Міронаўна.

— Дык жа іх не палівалі, — патлумачыў нехта. — Выкапалі ямкі, пасадзілі дрэўцы. І на тым усё закончылася.

— Нічога. Яму там ужо цень ад дрэў не спатрэбіцца, — падаў голас Іванавічаў сусед па пляцоўцы.

Леакадзія Міронаўна азірнулася і каля лаўкі ля дома ўбачыла некалькі хлопчыкаў і дзяўчынак. "Прыйшлі, — мільганула думка. — Нешта ж, відаць, у іхніх душах засталося пасля тых успамінаў пра сухары..."

**Міхась ДАНІЛЕНКА.**

*Гомель.*

# ...І Шэкспір змог загаварыць па-беларуску

*Да 100-годдзя з дня нараджэння Язэпа Семяжона*

Славы перакладчыку дастаецца небагата. На вокладцы кнігі яго імя не пазначана, і рэдка хто, чытаючы на роднай мове таго ці іншага замежнага аўтара, зазірне ў выхадныя даныя: што там напісана дробным шрыфтам.

Між тым перакладчык не проста транслятар, ён яшчэ і творца, якому даводзіцца выступаць у якасці паэта, празаіка, драматурга і літаратуразнаўца. Усе свае моўныя знаходкі ён сціпла аддае чужому твору, адначасова арыентуючы чытача на лепшыя здабыткі сусветнай літаратуры.

Што тычыцца Язэпа Семяжона, то ён сапраўды адбіраў і ўводзіў у кантэкст беларускай літаратуры найлепшыя творы. Байран, Шэкспір, Гейнэ, Міцкевіч, Гусоўскі, Славацкі — у гэтым спісе геніі прыгожага пісьменства, і ўсе яны загаварылі па-беларуску дзякуючы Язэпу Іванавічу.



Аднак да свайго галоўнага прызвання ён прыйшоў не адразу. Так, скончыўшы Смілавіцкую сярэднюю школу, Язэп Семяжон (сапраўднае прозвішча Семяжонаў) працаваў рахункаводам у калгасе "Перамога". Потым вучыўся на драматычных курсах у Мінску, а ў 1932—1934 гадах іграў у Беларускім трэцім дзяржаўным тэатры. У 1938 годзе Язэп Семяжон — выпускнік факультэта замежных моў Мінскага педагагічнага інстытута. З гэтага часу ён і пачаў займацца перакладамі, праўда, заняткі гэтыя праходзілі пад неспакойны грукат кананады. Язэп Семяжон удзельнічаў у паходзе ў Заходнюю Беларусь, у савецка-фінляндскай вайне і ў Вялікай Айчыннай вайне 1941—1945 гадоў.

У 1942—1953 гадах ён працаваў ваенным перакладчыкам. Выкладаў замежныя мовы ў Мінскім сувораўскім вучылішчы (1953—1960), у БДУ (1961—1975). Адным словам, перакладчыцкая практыка і веданне моў Язэпа Семяжона былі дастатковымі, каб смела брацца за мастацкія творы. Перакладчык цікавіўся народнымі песнямі, запісваў іх са слоў маці і перадаваў вядомым даследчыкам Генадзю Цітовічу, Рыгору Шырму, а таксама дасылаў у часопісы прыказкі і прымаўкі. Вывучэнне фальклору ўзбагачала яго мову, у перакладах Язэпа Семяжона знойдзецца багата трапных фразем, сакавітых, адметных слоў.

Яшчэ раней, чым у перакладчыцкай, Язэп Іванавіч паспрабаваў сябе ва ўласнай творчасці. 1931 год — час яго паэтычнага дэбюту. Але як паэт Язэп Семяжон не сцвердзіўся, свядома пакінуў гэты шлях, патлумачыўшы: "А што вершы перастаў пісаць, у нейкай ступені сказалася і тагачасная абстаноўка ў краіне. Вельмі ж было шмат ахвотнікаў знаходзіць "нешта" паміж радкоў. Таму вырашыў лепш займацца перакладамі..." Магчыма, беларуская літаратура страціла таленавітага паэта, затое займела выдатныя пераклады, якія Язэп Семяжон ажыццяўляў з больш як 30 моў свету. І прадстаўнікі новай генерацыі, новай перакладчыцкай школы азіраюцца сёння на старога майстра.

**Алена КАРП.**

